— Асабліва, калі навылёт.

— Бы камар укусіць. Месяц, і ўсё гатова.

— Ну, не кажыце. Бывае з рыкашэта каторая, тожа рве добра.

— Куля, куля! Асколак, во хто калечыць...

— Асколак, яно канешне.

— На чвэрць разварочвае. Ды яшчэ дактары на дзьве чвэрці распаласуюць.

— Ага. Расьсячэньне гэта называецца. Я ведаю. Ужо чацьвёрты раз трапляе.

— Ну. Во тады паякочаш. На квартал, ня меней.

А аднекуль, са змроку, між людской гаманы прабіваецца ціхі, раздумны голас чалавека, у якога, відаць, набалела на душы, ные і патрабуе падзяліцца. Але не з усімі наўкола, а, пэўна, з адным, тым, хто зразумее і неабсьмяе, не пакпіць.

— Панімаеш, прыйшоў... А яна ля мяне ўвіваецца... Кажу, як жывеш, Глафіра?.. Так спакойна, але гляджу, мяльцешыцца ў вачах. А знаеш, людзі мне ўжо што-колечы шапнулі... Сьцерва, кажу, каму ізьмяняеш? Савецкаму байцу ізьмяняеш... Панятнае дзела, рамень ён хоць і брызэнтавы ды каляны... Ну, завязаў вешчмяшок і — на станцыю... Капітан кажа: "Ты што, Сакольнікаў, дасрочна?" Дасрочна, кажу, жалаю хутчэй врагоў біць... "Маладзец, — кажа, — патрыёт. Бярыце, таварышы, прыклад з радавога Сакольнікава".

Накінуўшы на сябе паўшубак, цераз людскія ногі да нас пералазіць Каця.

— А ну, пасунься...

— Калі ласка, сястра, — кажа Юрка і паслужліва адсоўваецца, даючы ёй месца ля сьцяны. Каця моўчкі садзіцца, захінуўшы калені палой паўшубка.

На ложку з п'яным задавальненьнем на твары асклабліваецца сержант.

— Ганс, ком!

Немец з выдрэсіраванай гатоўнасьцю ўскоквае з падлогі.

— Ты за каго? А ну, скажы! Каб усе чулі.

Палонны стараецца зразумець, але гэта яму не ўдаецца, і ён пакутліва лыпае вачыма. Сержант цярпліва растлумачвае:

— Ну, хто ты? Буржуй? Рабочы? Фашыст?

— Іх бін дойч лерэр! — урэшце здагадаўшыся, аб'яўляе немец.

Але салдаты наўрад ці разумеюць яго і няўцямна глядзяць з куткоў, з лаўкі, з падлогі. Яны пакуль што адваявалі сваё і цяпер добрыя. У вачах задаволенасьць і спакой. І хоць бялеюць у змроку забінтаваныя рукі, ногі, галовы, але тое ўспрымаецца цяпер ня як бяда, а амаль як удача, бо галоўнае — жывыя. І калі ўсё-ж баліць дзе, дык хіба ў тым віна гэтага вось ціхманага, услужлівага і нават палахлівага немца, які здаўся ў палон? Немец, відаць, гэта адчувае і спакойна глядзіць, як з кутка да яго падступае нізенькі, рабатвары, у абмотках пехацінец. Пад накінутым шынялём у яго тоўста забінтаванае плячо. Гэта, здаецца, той, што непакоіўся, а ці налілі немцу



© PDF: Kamunikat.org 2013

выпіць.

— Слухай, фрыц! А ў цябе дзеці ці ёсьцека? — пытаецца ён.

Немец няўцямна пазірае на яго.

— Ну, дзеці, разумееш? Малыя, во такія?

— Кіндэр? — здагадваецца немец і пасьпешліва адказвае: — Цвай кіндэр. Дава дзіеці...

— І ў мяне двое дзяцей! — нібы зьдзіўляецца пехацінец, і ягоны рабаваты твар зьзяе прастадушным задавальненьнем.

І тады з-пад шынялёў з кута вылазіць вялікая цёмная постаць. Не разьбіраючы, што пад нагамі, на кагось наступіўшы і хіснуўшыся, гэты чалавек кідаецца да немца.

— Брэшаш гад! Свалата ты! Ух, я цябе!..

Вялізны і нязграбны, у прамазучанай целагрэйцы, ён дрыготкімі рукамі выдзірае з кірзавай кабуры наган і шчоўкае, узводзячы курок. Немец адступае на крок, рукі яго інстынктыўна ўскідваюцца насустрач танкісту.

— Стой! — крычыць з ложка сержант.

— Ты што?! — крычу я, нязграбна ўстаючы з-пад сьцяны.

Нехта яшчэ крычыць. Побач хутчэй за мяне ўскоквае на ногі Юрка. Адною рукой ён хапае танкіста за локаць.

— Спакойна! Спакойна!

Сержант, саскочыўшы з ложка, засланяе немца.

— А ну, схавай пушку! — уладарна загадвае ён. — Ваяка!..

— Навошта-ж дзяцей гэта самае... сіраціць? — зьбянтэжана пытаецца васпаваты салдат. І тады вялікі ўзрываецца:

— Ах, дзяцей! Такую вашу матары! Ягоных дзяцей шкада! А маіх хто шкадаваць будзе?

Ён бухае кулаком у свае грудзі. На буйным касьцістым твары яго лютасьць, вусны дрыжаць, вочы закаціліся пад лоб і не абяцаюць дабра. Але ўсё-ж хлопцы ня дадуць тут яму ўчыніць забойства. За сержантам, прыкметна апанураны, стаіць немец.

— Што ты ўсхапіўся, як Гітлер? — кажа да байца сержант і кладзе руку на яго плячо. — Ты-ж рускі. Рускі, так? Ну, дык чаго-ж ты, як бандзюга, пушку настаўляеш? Ён-жа палонны...

У хаце робіцца ціха. Чуваць, як у куце стогне абпалены лётчык. Ягоны вялізны сусед яшчэ раз надзяляе немца ненавісным позіркам і неахвотна вяртаецца да таварыша. Здаецца, канфлікт ліквідаваны. Сержант, перш чым узьлезьці на ложак, лёгенька штурхае немца.

— Ня дрэйф, Гансік. Давай, траві далей...

Немец нерашуча яшчэ ступае на вальнейшае месца.

— Іх бін кайн нацы. Іх бін лянд лерэр *), — даводзіць ён пацішэлым голасам.

Я апускаюся ля сьцяны, побач садзіцца Юрка. Каця, хутаючыся ў паўшубак, кажа:

— Ня веру я яму.

— Ну, чаму? — не згаджаецца Юрка. — Бываюць і сярод іх людзі.

*) Я не фашыст. Я сельскі настаўнік.

Калі рабочыя. Ці настаўнікі.

— Гад ён, а не настаўнік.

— Чаму так?

— Так.

— Гэ! А гэта што такое? — зьдзіўляецца сержант. У ягоных руках каўпачок ад Юркавай фляжкі, у які ён наліваў суседу па ложку. Каўпачок стаіць ня крануты.

— Эй, землячок! Ты што — махлюеш?

Ён ашчадна штурхае параненага ў плячо, які яшчэ нядаўна трудна стагнаў, а цяпер і ня кратаецца.

— Эй! — сержант устрывожана прыглядаецца да яго твару. — Вось табе і на! Ён-жа "ўжо"!..

Да ложка падыходзяць санітары, устае ад сьцяны Каця. Яны доўга мацаюць у салдата пульс, ды, здаецца, той сапраўды "ўжо".

— Фу ты, халера! — ня стрымлівае прыкрасьці сержант. — І сто грамаў не дапіў, дзівак...

Санітары ў маўклівай зацятасьці нязграбна, за полы шыняля, сьцягваюць з ложка труп і, напусьціўшы сьцюжы, выносяць яго з хаты. Ім памагае немец, які потым, ня ведаючы, дзе сябе дзець, цісьнецца да парога. Але яго адразу прыкмячае сержант.

— Ганс, ком сюды! Месца ёсьць. Ну, але плакаць ня будзем. За здароўе землячка! — кажа ён і спрытна куляе каўпачок. Немец пачціва сядае на ложку.

— На здрове!

Сержант кракае ад задавальненьня і ляпае немца па плячы.

— Правільна, Ганс. Але дзе ты гэтак па-нашаму навастрыўся?

— Шпрэхэн? О, біль фаль, — сьціпла адказвае немец.

Фаль! Быццам знаёмае слова, але я ўжо не памятаю, што яно азначае, у галаве маёй усё стомлена і п'яна блытаецца, і я гукаю сябру:

— Юрка! А, Юрка!

Юрка, прысланіўшыся да сьцяны, маўчыць. Я зазіраю ў яго зацененны твар: вось табе і на — ён-жа заснуў!

працяг будзе

**Леанід Дайнэка**

*

**Ад родных ніў пайшлі упрочкі продкі.**
**Іх век суровы быў і быў кароткі.**
**Іх вёскі лютая вайна паліла.**
**Застаўся нам іх край, і хлеб, і ліра.**
**Крані струну, бы дзень крані мінуўшы, —**
**Пяюць і плачуць нашых продкаў душы.**
**Зьвініць струна, зьвініць на поўны голас,**
**Як быццам плача ў ціхім полі колас.**
**Той плач, той сьпеў... Глухі, хто іх ня чуе.**
**Паміж балот яго душа начуе...**
**Зьвініць струна, так, як сама хацела.**
**І грэх на ліры той сыграць няўмела.**

**Сьвятой**  **Памяці**

## БАРБАРА САЖЫЧ

адыйшла на вечны супачынак на 59-ым годзе жыцьця 21 ліпеня 1978 году ў Дэтройце. Нябожчыца нарадзілася 17 сьнежня 1919 году ў сям'і Мазураў і прыгожую Наваградчыну лічыла сваёй любімай і незаменнай Бацькаўшчынай.

Вара, як яе ўсе называлі, была адною з першых пачынальнікаў беларускага нацыянальнага жыцьця ў Дэтройце. Яе заслугі для беларускае справы ў Дэтройце, і ЗША наагул, вялікія, бо была яна палымяннаю патрыёткаю свайго народу, і любоў яе да ўсяго беларускага была магутнаю і шчыраю. Амаль ніводная беларуская грамадская або царкоўная імпрэза не адбылася без яе актыўнага ўдзелу, а таму Вара была ведамаю, шанаванаю і паважанаю жанчынаю ў Дэтройце ня толькі сярод сваіх Беларусаў, але таксама сярод людзей іншых нацыянальнасьцяў. Барбара Сажыч трывала і велічна ўвайшла ў гасторыю беларускага руху ў ЗША, і яе сьветлая постаць будзе гістарычным сьветачам для будучых беларускіх пакаленьняў у Амэрыцы.

**Няхай будзе Ёй лёгкай амэрыканская зямля і вечная памяць сярод жывых!**

---

Віктар Ракаў

### МАЦІ

Дзе-б ні быў я,
На якіх дарогах,
Пелі сосны, ці шумеў прыбой, —
Чуў заўжды: гукала, як малога,
Пасядзець, пагутарыць з табой.
І штодня чакала ліст ад сына,
Пазірала з смуткам і тугой:
— Дзе ты, родны,
І які прыпынак
Зьберагае сон трывожны твой?
...Маткі, маткі,
Радасьць, боль і страты —
Іх вы пераносіце бяз слоў:
Са сьлязьмі праводзіце вы з хаты,
Са сьлязьмі частуеце сыноў.
Ды няма, відаць, на ўсёй планэце
У шматлікіх мовах слоў такіх,
Каб маглі суцешыць матак дзеці
Так,
Як маткі суцяшаюць іх.

Я. Колас

## БЕЛАРУСАМ

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі!
Устань ты, наша старана!
Ужо глядзіць к нам на палаткі
Жыцьця новага вясна.

Ці ж мы, хлопцы, рук ня маем?
Ці ж нам сілы Бог ня даў?
Ці ж над родным нашым краем
Промень волі ня блішчаў?

Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сьцяна.
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!



Генадзь БУРАУКІН

## БЕЛАРУСІ

**У любві да цябе я ня раз буду клясьціся.**
**Не таму, каб ты помніла клятву маю.**
**Проста, дзе ні пабуду —**
**ў Смаргоні ці ў Клясьціцах, —**
**Я ўсё болей цябе пазнаю.**
**Пазнаю цябе юнаю і старажытнаю,**
**У сузор'ях агнёў і ў паводках бяроз.**
**Колькі раз кожным нэрвам сваім, кожнай жылкаю**
**Пэражыў я твой мужны і велічны лёс!**
**Колькі вызнаў і вынес ты, краю мой мілы!..**
**І сягоньня ўспамін твае грудзі пячэ,**
**Дзе пустыя акопы — як старыя магілы,**
**Што сябры закапаць не пасьпелі яшчэ.**
**У нябыт і нядоля і ворагі рынулі...**
**І цяпер прыгажэй, даражэй удвая**
**Ты стаіш, Беларусь, завадская, зубрыная...**
**Я — пясчынка твая.**
**Я — крывінка твая.**

---

## ЛЮДЗІ ДОБРАЕ ВОЛІ.

"Беларускі Сьвет" атрымаў наступныя грашовыя ахвяры:

| | |
|---|---|
| Сп. Вітаўт Кіпель | — $20.00 |
| Сп. Паўлюк Пашкевіч | — $20.00 |
| Сп. Сяргей Карніловіч | — $15.00 |
| Сп. Янка Бруцкі | — $5.00 |

**Вялікае Вам ДЗЯКУЙ!**

*) Гэтыя ахвяры ўключаюць таксама грошы выручаныя з прадажы часапісу "Беларускі Сьвет".

**Пімен Панчанка**

— * —

**Нешта пройдзена,**
**Нешта знойдзена,**
**Прыгалублена,**
**Потым згублена.**
**А найлепшае ня збываецца,**
**А найгоршае не забываецца.**
**І толькі родныя лясы**
**Знаходзяць нас ва ўсе часы.**
**І зоркі аганёк**
**Надзею шле здалёк**
**І абяцае шмат дарог,**
**Расчараваньняў і трывог.**
**Ты толькі раз з дарогі збоч —**
**Паселіцца у сэрцы ноч.**
**Ад праўды раз адкруцішся —**
**Няпраўдаю атруцішся.**
**Трэ берагчы нам праўду слоў,**
**Як бор сваіх дзятлоў,**
**Як удава апошняе**
**Сваё дзіця...**
**І даражу я кожнаю**
**Расінкаю жыцьця.**

Люба Тарасюк

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Лёс не адзін табой абагрэты,
Мова-сялянка і мова паэтаў.
Дзякуй табе, мая сьветлая,
За долю песьні прыветнай.
Гукам шчасьлівым і ласкавым
Ці нясуцішнаю скрухаю
Я цябе, мая ластаўка,
Не адрываюся-слухаю...
Сілу сваю выпроствала
Ты з-пад чарноты вязкай.
Дыхае слова простае
Сьвежасьцю праславянскай.
Сьціплая, ды ня кволая —
Гордаю быць умела.
Вечна балючым полымем
Хатынь твая палымнела...
Стала ты мне ня страчаным
І на мяжы пакаленьняў
Багаслаўленьнем матчыным,
Бацькаўшчыны сумленьнем.

Я. Колас

# У ГЛЫБІ ПАЛЕСЬСЯ

## НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

працяг

### X

Усё гэтае лета Лабановіч жыў дома. Нельга сказаць, каб яму было вельмі добра. Няпрыемна перш за ўсё было адчуваньне, што ён тут не такі, як усе, і што на яго ў доме пазіралі, як на чалавека іншага кругу. І як ён ні стараўся сьцерці ўсякія граніцы паміж сабою і роднымі і цалкам зьліцца з імі, жыць так, як жывуць і яны, яму гэта ніяк не ўдавалася, бо самі-ж родныя падтрымлівалі гэтыя граніцы. Калі ён уставаў разам з усімі, каб узяцца за якую-небудзь работу, дык дзядзька або маці заўважалі, што ён мог-бы паспаць і даўжэй, і не яго ўжо справа цягнуць гарапашніцкую лямку простых людзей.

— А хіба-ж я крывы? — пытаў Лабановіч.

— Крывы ня крывы, а раўняцца з намі табе няма чаго. Ня на тое-ж ты вучыўся, каб капацца ў гэтым сьмецьці і брудзе.

А маці старалася і яду гатаваць госьцю лепшую, не зважаючы на яго пратэсты. Браты і сёстры таксама трымаліся здалёк ад яго, як-бы чужаліся, таілі ад яго сваё жыцьцё, свае патрэбы, і ён, нарэшце, пагадзіўся з роляю адгароджанага ад сям'і чалавека, што нейк рабілася само сабою натуральным парадкам. У сваю чаргу і Андрэй замыкаўся ў сабе. Адзін толькі Якуб быў з ім за панібрата і знаёміў яго з колам сваіх інтарэсаў, сваіх забавак і свайго дзіцячага жыцьця, забаўляючы брата нясьціханым шчэбетам.

Першыя часы побыту дома Лабановіч хадзіў па полі, што яны арандавалі ад скарбу, аглядаў засевы збожжа. Ён радаваўся, калі бачыў шнуры добрай збажыны ці бульбы і не згаджаўся з тою ацэнкаю іх, што рабілася дома, бо і ў мацеры і ў дзядзькі Марціна, як здавалася яму, заўважалася нахіленьне зьніжаць сапраўдны стан рэчаў.

Недалёка ад хаты была нізкая балоціна, дзе расла дзікая трава. Карысьці з яе ня было амаль ніякай, бо ні да пашы, ні да сенакосу яна не надавалася: трудна было туды даступіцца. Між полем і балоцінаю рос густы алешнік, раскінуўшыся па купінах, дзе пракідалася маліна і смародзіна. У ценю гэтага алешніку было вільготна. Чорная, як дзёгаць, гразь выглядала з-за высокага куп'я.

"А што, каб гэтай гразі нацягаць на поле", — думаў, ходзячы тут, Лабановіч. — Поле-ж пустое: капарні нагою — і жоўтага пяску дастанеш. Трэба будзе параіцца з дзядзькам Марцінам".

Ён пачаў меркаваць, як-бы можна было палепшыць зямлю. Сілы малавата, а перакапаць-бы зямлю на перавал ды навазіць у канаўкі гразі з алешніку, напэўна зямля паправілася-б, і расло-б тут збожжа, як лес.

Мысьлі Лабановіча пайшлі далей у гэтым кірунку. Яго яшчэ невялікае жыцьцёвае дасьведчаньне казала яму аб нядбайнасьці людской, аб закаранеласьці форм людскога жыцьця.

Вось хоць-бы і тутэйшы народ: бедны, ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі, таўчэцца, кідаецца ў розныя бакі, шукаючы аддушыны, мала хто знаходзіць яе. Зямлі мала, зямля неўраджайная, голы пясок. Усе-ж лепшыя землі належаць да скарбу. Адчуваецца вострая патрэба ў зямлі, а народ множыцца. Чым-жа можна палепшыць яго дабрабыт? Каб людзі грамадою пасталі на работу, яны-б асушылі балоты, пазносілі-б пяскі з палёў, а балотны гной і яго ўраджайны грунт перанесьлі-б на пясчанае поле — хапіла-б і хлеба, і сенажаці.

З рэальнага грунту разважаньня Лабановіч паволі зьехаў у павабны край прыгожых мараў. Ён бачыў сябе ў ролі чалавека, які здолеў заклікаць грамаду на новую дружную работу. Грамада асушае балоты, стварае новыя землі, праводзіць дарогі, абсаджвае іх фруктовымі дрэвамі, будуе масты, будуе новыя дамы і пачынае жыць шчасьліва і багата.

Аглядаючы двор і гаспадарскую надобу, Андрэй спыніўся каля хлява: пад страхою ляжалі тры тоўстыя кавалкі чорнага дубу. Яшчэ летась, купаючыся, напаткаў ён выпадкам гэты дуб у пяску на дне Нёмана. Пачаў тупаць каля яго, зацікавіўся знаходкаю. Прынёс рыдлёўку, стаў адкопваць. Работа пасувалася борзда, вада сама адносіла ўзварушаны пясок, і цела старога волата ўсё больш і больш выступала з зямлі. Чорны, як вугаль, тоўсты, роўны, гладкі дубовы стаўбур ляжаў упоперак ракі. Камель далёка ўваходзіў у высокі бераг, і адкапаць там яго было вельмі цяжка. Лабановіч з захапленьнем увіхаўся. Ён адчуваў тады нават нейкую радасьць, выкопваючы на сьвет гэтага невядома калі пахаванага нябожчыка. І напэўна доўгі-доўгі час ляжаў ён на дне, бо ніхто не памятае, калі тут расьлі дубы — ніякіх сьлядоў ад іх не захавалі часы. Калі ўвесь стаўбур быў адкапаны, прынесьлі пілу. Дзядзька Марцін таксама зацікавіўся дубам, і ўдвух пачалі яны даставаць яго. Дастаць цалкам ім было ня пад сілу, прышлося пілаваць на тры часьці. Набрынялы вадою, ён лёгка, як морква, паддаваўся пілоўцы. Разрэзаныя кавалкі выкацілі на бераг, дзе яны прасохлі і сталі цьвёрдыя, як косьць.

І гэтыя тры таўшчэзныя кавалкі чорнага дубу, роўныя, гладкія, бяз ніводнага сучка, ляжаць пад страхою бяз ніякай карысьці, не знаходзяць ужываньня, нягледзячы на сваю высокую вартасьць. Ад сонца і ветру яны пакалоліся, парыжэлі. І трохі крыўдна зрабілася цяпер Лабановічу, што дзядзька Марцін не паклапаціўся папілаваць на дошкі і скарыстаць гэты дарагі матэрыял. Ня дубу шкада было яму, а крыўда брала, што не выкарыстоўваецца тое багацьце, якое ляжыць каля нас, а мы ня ўмеем даць яму належнага ходу.

— Нічога з іх ужо ня будзе, брат. Пакалоліся падлы, прыдзецца папілаваць на дровы.

Такі прысуд вынес цяпер гэтым дубовым кавалкам дзядзька Мар-

цін і як-бы ў апраўданьне дадаў:

— Нам трэба было палажыць іх наўперад у гумно ды прыкрыць саломкаю, каб яны высахлі павольненька — тады і не пакалоліся-б.

Праект-жа пляменьніка — падвезьці чорнай зямлі з алешніку на поле — дзядзька прызнаў вартым увагі, можа, проста, каб не пакрыўдзіць "настаўніка". Але... тут знайшлося сваё "але". Па-першае, на гэтую справу патрабуецца многа сілы, часу і працы. Ды гэта яшчэ нічога, можна было-б спрабаваць. Другая, самая важная прычына перашкаджала такой рабоце: зямля была ня іх, а арандаваная. Невядома, што будзе далей з арэндаю, бо скарб хоча пусьціць гэтую зямлю на замену з сялянамі на канцы вясковых шнуроў, якія падыходзяць або ўкліняюцца ў скарбовы лес, каб такім чынам акругліць княжацкія ўладаньні.

— Жывеш вось так з дня на дзень і нічога пэўнага ня ведаеш. Можа, яшчэ скажуць зносіць адгэтуль будынкі. Тады хоць вазьмі ды падпалі іх, а сам надзявай торбу ды ідзі жабраваць. Няма, брат, простаму чалавеку ні волі, ні разгону. Іх сіла і іх права. Служыў, служыў бацька ўвесь век, а памёр — сям'я куды хочаш дзявайся... І калі ім, халерам, канец той будзе? І ці будзе? Пачалася-б вайна ці якое ліха, можа-б людзям палёгка ці ня была-б.

Жаліўся дзядзька Марцін, што ўсюды ўціск пачаўся. Куды ні кінься, усё ў панскія рукі пападзеш. Сьвет яны ўвесь загарадзілі, а за простага чалавека ніхто не заступіцца.

Цяжка было слухаць гэтыя жальбы, бо ў іх была голая і горкая праўда. І як пагадзіць гэта ўсё з тым, што ўбівалася ў іх галовы ў сэмінарыі? Вучылі-ж там, дзяўблі на кожным кроку, як апякуецца царскі ўрад, царскае начальства і сам цар аб народзе, як гэты народ любіць свайго бацьку-цара, як ён заўсёды знаходзіць у яго і ласку і міласьць. "Бог на небе, цар на зямлі" — вось тыя кіты, на якіх стаіць сьвет. І гэтыя-ж ідэі праводзіў праз школу і ён, Лабановіч. Скуль-жа такая няўвязка "навукі" і жыцьця?

Лабановіч прыпамінае слова сацыяліст. Ён першы раз чуў яго ў сэмінарыі ад аднаго прыяцеля з Навагрудчыны. Гаварылася яно ціха, шэптам, а самы-ж сэнс яго агортваўся нейкаю таямнічасьцю, не выклікаючы рэальнага значэньня: гэта проста той прапашчы чалавек, які асьмельваецца нядобра думаць пра цара, пра цяперашні парадак.

Так праходзілі першыя дні дома. Лабановіч нікуды не хадзіў, снаваў па дварэ, па полі, часамі выбіраўся ў лес у свае знаёмыя абходы, дзе ў грыбныя часы так любіў зьбіраць грыбы, але цяпер іх яшчэ ня было. Хадзіў ён, хадзілі з ім і думкі яго, і яго мары, і ўспаміны. Спакой і цішыня лясная так хіляць да такога думаньня. І ў гэтай адзіноце-глушы неадступна хадзіў з ім і вобраз Ядвісі, чысты, недасяжны і бясконца мілы і дарагі. І дзе яна цяпер? Ці ўспамінае яго? І чаму ўсё-ж-такі нічога не напісала, не сказала яму, куды паедзе? Няўжо яна ня хоча знаць аб ім нічога? А можа, там у Хатовічах, у воласьці ёсьць пісьмо ад яе. Ён напіша туды. Як добра, што

такая думка прыйшла ў галаву. І ў сэрцы абуджаецца надзея, што ліст напэўна ёсьць там. Прыйшоўшы з лесу, ён піша да Дубейкі і просіць, каб усякая почта перасылалася яму сюды. З гэтым лістом ідзе ён у Панямонь. Якраз і другую справу можна зрабіць — камэрцыю з Гэсалем. З Панямоні вярнуўся ён значна павесялеўшым і падвесяліў у значнай меры сваіх родных, бо дваццаць рублёў грошы для іх не малыя.

Асталяваўшыся, Лабановіч увайшоў у каляіну дамашняга жыцьця. Чытаў, аднаўляў у памяці навуку, набываў новыя веды. Часам надвячоркамі хадзіў у Мікуцічы, каб пабыць у кампаніі сваіх прыяцеляў, а летам іх тут ніколі не бракавала.

Мікуцічы — сяло вялікае, вядомае ва ўсёй акрузе. Стаіць на пясках каля Нёмана. Народ тут бедны, малазямельны. Жыць з гаспадаркі трудна, і мікуцічане перабіваюцца заработкамі. Але гэтых заработкаў мала. Зімою возяць калоды, вясною і летам ходзяць на сплаў — на згоны і на плыты. Жанкі і дзяўчаты зьбіраюць летам ягады і грыбы і гэтым трохі падзарабляюць на дамашні абыходак, а моладзь расходзіцца па сьвеце, каб выбіцца ў людзі, знайсьці сабе кусок хлеба і бацькоў падтрымаць. Выб'ецца адзін, за ім цягнецца другі, памагаюць адзін другому. Чыгунка, тэлеграф, почта, школы розных кірункаў, пачынаючы настаўніцкімі сэмінарыямі і канчаючы вышэйшаю школаю, маюць сваіх прадстаўнікоў з Мікуціч. Такім парадкам, Мікуцічы маюць сваю інтэлігэнцыю, пераважная большасьць якой прыходзіцца на настаўніцтва, і гэтая група найболей цесна зьвязалася з родным сялом.

Як толькі канчалася работа ў школах, настаўнікі зьязджаліся на лета да бацькоў. Гэта ўвайшло нейк у традыцыю, дый дома пражыць танней, можна было не чапаць пэнсыі за летнія месяцы, перабіцца на дамашнім хлебе і на бацькоўскім крупніку. У цяньку гумнаў і адрынак знаходзілі яны супакой душы і адпачынак целу. Хто рыхтаваўся ў настаўніцкія інстытуты, хто ўзбройваўся філасофіяй жыцьця, хто лавіў рыбу на ўлоньні прыроды, хто ўходжваўся каля гаспадаркі, памагаючы бацькам, а хто проста біў бібікі. Але ў гарачы час сенакосу і жніва высыпалі яны ўсе на луг, на поле, і толькі ўжо самыя важныя і салідныя, прасякнутыя 'панскім духам', упарта сядзелі пад сваімі стрэхамі. А калі хто і выходзіў у крытычны момант вязаць ячмень, то ня іначай, як у рукавічках, даючы гэтым багатую страву для жартаў вясёлым мікуцічанам.

Вечарамі, калі спадала дзённая гарачыня, выходзілі настаўнікі халадком на шпацыр, хадзілі па вуліцах, а часамі зьбіраліся ў каго і ладзілі выпіўку. А некаторыя цішком наведваліся ў каморы і сенечкі, дзе мелі свае рэзыдэнцыі абранніцы іх сэрца. Такіх "абранніц" называлі ў Мікуцічах "панскмі" дзяўчатамі, і гэты парадак рэчаў быў тут законным і натуральным. Але трудна было ступіць крок па лініі каханьня, каб ня стаўся ён вядомы назаўтра ўсім у Мікуцічах.

Сярод настаўніцтва былі свае групы, якія складаліся на грунце тых ці іншых інтарэсаў. Настаўнікі болей сталыя, што ўжо мелі пэў-

ную жыцьцёвую практыку і працавалі па колькі гадоў, трымаліся свае кампаніі і на маладых глядзелі трохі звысоку, як людзі больш дасьведчаныя, больш разьвітыя і больш заможныя, калі толькі заможнасьць наогул можна прылажыць да вясковага настаўніцтва.

Маладыя-ж настаўнікі лічылі сваім абавязкам сяды-тады зайсьці да сваіх калегаў, пагаварыць з імі, а часамі паспрачацца і паказаць ім, што і яны ня лыкам шытыя і казённую кашу не дарма елі. А ў Мікуцічах сьцяг навукі і годнасьць разьвітага чалавека трымаліся высока сярод настаўніцтва.

Першая пазыцыя, якую заваёўвала моладзь у сваім змаганьні за права называцца разьвітымі людзьмі, звычайна было супраціўленьне рэлігі і Богу. Можа, у гэтым выяўляўся пратэст супраць сэмінарска- сьвятарскага выхаваньня і славянскіх тэкстаў Філарэта, але хто ня чытаў Бокля, Дарвіна і Дрэпэра, той проста лічыўся невукам, чалавекам, які нічога ня ведае і з якім няма аб чым гутарыць. Мікуцкія гумны і адрынкі былі школамі вольнадумства.

З адрынак вольнадумства пераходзіла і пад стрэхі сялянскіх хат. Сталыя людзі наўперад з дакорам ківалі галовамі, калі прачувалі аб якой-небудзь вольнадумскай штучцы таго ці іншага настаўніка.

— Чаму-ж яны дзяцей навучаць, калі самі робяць нямаведама што?

## XI

Каля самага сяла, падмываючы вуліцы, цячэ Нёман. Разложыстыя круглаверхія вербы, узьняўшы над вадою карэньне, абступаюць адхонны пясчаны бераг. На мікуцкіх вуліцах — сыпучы пясок. Гразі тут амаль ня бывае ніколі, але калі падымаецца вецер, дык цэлыя воблакі пылу стаяць у паветры.

Шумна і гучна ўлетку на беразе Нёмана. Зранку і да самага вечара галышамі качаюцца тут дзеці, то ў пяску, то ў вадзе. Сотнямі гукаў разносіцца над ракою плясканьне пранікаў. Падаткнуўшы спадніцы і агаліўшы лыткі, выбіваюць палотны жанкі і дзяўчаты, беляць іх, рассьцілаюць на беразе. У гэтым месцы Нёман мелкі і шырокі. І езьдзяць, і ходзяць, і жывёлу ганяюць уброд. Цалюткі дзень снуюць тут людзі — старыя і малыя, хто за Нёман, хто з-за Нёмана. Перайсьці-ж уброд раку летам — адна асалода. І калі ў мужчын ёсьць яшчэ сякі-такі клопат — падкасацца або скінуць нагавіцы, калі вада прыбудзе, дык жанчыны ў гэтых адносінах зусім шчасьлівы народ. Падымуцца на хаду, колькі трэба, і храбра рушацца ўброд, не зважаючы, ці ёсьць тут хто, ці не, глядзяць на іх, ці не глядзяць. Часамі-ж некаторыя сьмелыя і рызыкоўныя асобы, асабліва, калі на беразе ёсьць гледачы, сумыслу нарыхтуюцца брысьці так, як-бы тут вельмі глыбока і можна падумаць, што вада зойме па самыя пахі, хоць вышэй калена яна не даходзіць. Бывала і жартамі перакінуцца ў такіх выпадках па сутнасьці справы, а часам які-небудзь Гілерык, чалавек сталых год, і заўвагу зробіць, выняўшы люльку з зубоў: “Апусьціла-б хоць ніжэй спадніцу”, — а сам пры гэтым сарамліва ўбок адвернецца. А калі яго закраналі сьмехам, то каб у даўгу ня быць, так адзавецца:

— Пацягнуць-бы бясстыдніцу цыбуком, то шанавалася-б. Казырыцца чорт ведае чым!

Па той бок Нёмана лугі ідуць, а за лугамі — лес і поле. Вярсты дзьве будзе да поля. Ляжыць чорная грэбля ўпоперак лугу, адным канцом да ракі даходзіць, другім — у поле ўпіраецца. Вось гэта грэбля — бяда і гора мікуціцкае. Пакуль праедзеш яе — духі вытрасеш і кішкі збоўтаеш, а ў мокрае лета і каня ўгрузіш, і сам, як д'ябал, у гразі выкачаешся. І снасьць ламалі тут, і жывёлу калечылі. Паганая грэбля, каб яе людзі ня зналі, так-жа ўелася яна ў косьці.

Колісь тут, як расказваюць старыя людзі, праўда, самі яны ня помняць, быў мост. І цяпер яшчэ сям-там па баках грэблі засталіся рэшткі паляў, і тырчаць яны з гразі, як згніўшыя зубы ў сківіцы. Мост гэты быў зьнішчаны ў часе Швэдскага Паленьня. Жыве яшчэ ў памяці людзей вайна са швэдамі. Нават імя сваё мае ў вуснах народа — Швэдскае Паленьне. Вось і спалілі тады швэды мост. Вялікія бойкі адбываліся тут. А над самым Нёманам, вышэй трохі сяла, ёсьць курган-магіла. Размывае рака грудзі гэтай невядомай магілы, вымывае чалавечыя чарапы і старасьвецкую зброю. І перадаюць мацяркі сваім дзецям аб гэтай страшнай часіне Швэдскага Паленьня. Многа тады народу пабіта было, а будынкі папалілі. Людзі па лясах туляліся. І кідаліся швэды на хітрыкі. Гукалі ў лесе:

— Тацяна, Мар'яна! Выходзьце з лесу: швэды дадому паехалі.

І калі хто выходзіў на голас, таго забіралі і забівалі.

Тады і жывёла амаль уся перавялася. У Мікуцічах застаўся адзін толькі бык, а ў Сьверынаве — карова. Сабралі гэтую пару людзі потым і аралі на ёй. Але, нарэшце, пакараў Бог швэдаў за зьдзекі над людзьмі — асьляпіў іх, і зьбіраючыся ехаць верхам, яны садзіліся тварам да конскага заду. Тады іх пабілі.

Такая легенда зьвязвалася з грэбляю і з даўнейшым мастом, што быў на месцы яе.

Крайнім будынкам ад Нёмана супраць броду была старая карчма на высозным падмурку. Калісь гэта быў вір сялянскага жыцьця, і не адна мікуціцкая душа захлынулася ў ім. З таго часу, як увялі манапольку, карчма заняпала, а потым згарэла. Але па старой прывычцы зьбіраўся тут народ, як на старадаўняе веча, дзе вырашаліся сялянскія справы і разважалі аб розных пытаньнях мікуціцкага побыту.

Мікуцічане — народ грамадскі, любяць пагутарыць аб розных розная́сьцях: аб замежнай палітыцы, аб вайне, аб заработках, аб цяжкасьцях жыцьця, аб тым, што нешта на сьвеце робіцца і нешта гатуецца і што павінна нешта адбыцца, бо далей так жыць нельга. Прагавіта прыслухоўваліся да розных чутак, часамі выдумлялі іх і на гэтай аснове ствaралі такія рэчы, што самі пачыналі палохацца іх, а потым самі-ж дапякалі сябе сьмехам. Стаіць, бывала, грамада, а перад ёю за Нёманам, як нейкая гадзюка, ляжыць праклятая чорная грэбля, дыхнуць вольна не дае. Многа было аб ёй гутарак і сварак, калі справа заходзіла аб тым, каб яе паправіць. Бывала, так-сяк і зьбяруцца і падправяць сям-там, але такая рапарацыя мала давала



© PDF: Kamunikat.org 2013

карысьці, і грэбля як была, так і заставалася іх бядою.

Праўда, не заўсёды грэбля з аднакаю сілай бунтавала сялянскія душы. Часамі аб ёй зусім нават забывалі, і толькі ў часе касьбы і жніва, калі трэба было езьдзіць з вазамі, аб ёй думалі, яе праклінялі, з-за яе сварыліся. Жыла гэта грэбля і ў думках грамады і паасобных членаў яе. Жыла, як стрэмка ў целе.

Лабановіч ня раз чуў размовы аб грэблі і скаргі на яе як з боку дзядзькі Марціна, так і з боку грамады. Ня раз і сам хадзіў па ёй пехатою і езьдзіў. Ня раз перадрыжаў ён тут, вязучы снапы ці сена, каб не абярнуцца з возам. У яго памяці абуджаліся легенда і розныя пабаюшкі, створаныя напалоханай фантазыяй цёмнага чалавека. Было на ёй, казалі, і страшнае месца, адкуль часамі выбягаў нехта ў чырвоным, з пугаю ў руках і шалёстаў па вушах таго, хто позна ехаў з поля.

Дзіўным здавалася Лабановічу, што такое вялікае сяло, як Мікуцічы, ня можа справіцца з грэбляю. Ну, што-б значыла сялянам адвесьці, ну, тыдзень — два часу, каб адвінуцца і збыць гэтую злыбеду? Няўжо так цяжка грамадою выкапаць абапал грэблі канавы, падвезьці пяску і каменьня, падняць яе, насыпаць, зараўняць, утрамбаваць. Пяску-ж, куды ні павярніся, цэлыя горы. Каменьнем завалены межы. Цэлыя рэчкі каменьняў, паскіданых з поля, цягнуцца побач дарогі. І рабочых рук стае, і матэрыял пад рукамі, няма толькі такой рукі, што паставіла-б сяло на грамадскую работу.

І вось гэтым летам, калі ў галаве Лабановіча сьпелі розныя праекты палепшыць людское жыцьцё, падняў ён раз пытаньне аб грэблі сярод настаўнікаў свайго сяла. Чалавек з дзесяць сабралася ў гумне Іванка Перагуда. Сам Іванок ляжаў у сваім логаве, зьмяўшы нагамі даматканую коўдру і зьбіўшы падушку ў нейкі брудны камяк. Валасы яго, даўно ня стрыжаныя, ускудлачыліся і, як купіна, ляжалі на падушцы. Настаўнікі разьмясьціліся дзе папала. Каля пасьцелі стаяў кволенькі столік, на ім было некалькі кніг, пустая папяровая скрынка ад гільз ды пара акуркаў.

Іванок Перагуд карыстаўся славаю дзівака і філосафа. Асноўная формула яго філасофіі казала: “Плюй на ўсё і шануй сваё здароўе”. Праўда, у яго было многа напускнога, і ён трохі фарсіў сваім дзівацтвам. Наогул-жа быў добрым работнікам у школе і вясёлым чалавекам у кампаніі.

Сышліся тут розныя групы настаўнікаў. Старэйшыя вялі рэй, а маладыя толькі прыслухоўваліся ды падавалі рэплікі.

— І вось што цікава, і гэта трэба адзначыць, хлопцы, — гаварыў Міхась Лабада, настаўнік з пяцігадовым стажам: — Сярод нашых мікуцічан ніводнага злодзея няма.

Настаўнікі былі прыемна зьдзіўлены. І праўда няма тут злодзея.

— Гэта, братцы, варта таго, каб залатымі літарамі занесьці ў гісторыю нашага сяла, — азваўся прыяцель Лабады, Ігнат Курган.

— Так, гэта рэдкасьць, — загулі галасы.

— Бо тут і ўкрасьці няма чаго, і мікуціцкая галота няздольна вы-

гадаваць злодзея, — азваўся са свайго логава Іванок.

Усе засьмяяліся.

— Не, брат, стой! — з жартам выступіў Садовіч, — а Язэп Малюк...

— О ты чорт! — нібы напусьціўся на яго Курган, — абедню псуеш. Ды што Язэп? Ён тут ня жыве і ніводнага цьвічка ня ўкраў і, такім парадкам, не парушае агульнай чэснасьці нашага сяла.

— Праўда! — падхапілі настаўнікі.

Язэп Малюк зьяўляўся ў Мікуцічах разы са два, а цяпер аб ім ніякіх чутак ня было.

— Я вам раскажу пра Язэпа, — сказаў Курган. — Як быў ён тут апошні раз, паехаў з нашымі мікуцічанамі ў Панямонь. А ён чалавек спрытны, адзеты на гарадскі лад, манеры ў яго, як у пана. "Чый-жа гэта такі?" — дзівяцца людзі. "А гэта наш — мікуціцкі", — адказваюць мікуцічане. Рады яны, што іх чалавек такі спрытны. Аж праз некалькі хвілін злавілі Язэпа на кражы. Вядуць. "Хто-ж гэта такі? Чый ён?" — пытаюцца людзі. Нашы мікуцічане адказваюць: "А чорт яго ведае, чый ён там".

Калі гутарка скіравалася на сяло, Лабановіч улучыў момант, каб перавесьці размову на грэблю.

— Ведаеце, хлопцы, што? Вот мы тут успамінаем усякія, праўда, вельмі цікавыя драбніцы. А варта было-б грэблю наладзіць. Усім яна ў косьці ўелася і ўсе адчуваюць, што яе трэба наладзіць, так наладзіць, каб перастала быць стрэмкаю ў жыцьці сяла... Давайце паднімем народ на работу!

Ён хацеў сказаць болей, што зрабіць добрую грэблю зусім ня цяжка пры дружнай рабоце грамады, але трохі саромеўся старэйшых таварышаў і адчуваў сябе ў іх кампаніі ня вельмі ўпэўнена.

— Ты што-ж? Хочаш быць Обэрлейнам? — запытаў яго Лабада.

— Не мяшайся ў жыцьцё, — заўважыў з бярлогу Іванок, — няхай яно ідзе, як ідзе. Плюй на ўсё і шануй сваё здароўе.

— Тут, брат, трэба ўмяшаньне начальства, наказ строгі і сур'ёзны, а цябе ніхто не паслухае, — дадаў Курган.

— Распанелі вы і ня хочаце пальцам паварушыць, каб зрабіць добрую справу, — жартам адказаў Лабановіч і сьціх.

Гутарка павялася на іншыя тэмы, але яму было як-бы трохі крыўдна за сваё выступленьне. Ну, што-ж? Ён зробіць гэта і бяз іх. Болей ён не чапаў ужо гэтага пытаньня, бо відаць было, што ніхто не прыдаваў тут сур'ёзнага значэньня таму праекту, з якім ён так няўдала высунуўся.

Кожны, хто хацеў-бы пагутарыць з мікуцічанамі, заўсёды знойдзе сярод іх уважных слухачоў, асабліва ў сьвяточны дзень і ў пагоду. Падсядзь толькі да двух-трох чалавек на прызьбе, толькі расчыні рот і скажы некалькі слоў, як зараз-жа каля цябе пачнуць зьбірацца людзі, і праз паўгадзіны іх назьбіраецца не адна сотня. Вось і на гэты раз каля хаты дзядзькі Базыля, на горцы, адкуль так добра відаць і брод і грэбля за Нёманам, сабраліся мікуціцкія сяляне. Між імі быў і Лабановіч. Гутарка зачалася з Палесься. Лабановіч

расказаў некалькі сьмешных здарэньняў з цельшынскага жыцьця, як палешукі сьвята згубілі і як яны прычашчаліся пасьля споведзі.

Мікуцічане слухалі і сьмяяліся.

— Дык яны, падлы, дзікія, — заўважыў дзядзька Сымон: — Я раз бачыў іх. У Нясьвіжы лесьніка-палешука сустрэў. Валасы доўгія, бы ў папа. Узялі яго ды агалілі, як калена. Ото-ж ён гараваў! Хапаўся за галаву і ўсё казаў: "Што-ж мне зробілы? Як-жа я покажуса на родыму? Скажуць — таўкач та і ўсэ".

— Але паміж імі і, скажам, намі, мікуцічанамі, ёсьць многа падобнага і агульнага, — заступіўся Лабановіч за палешукоў.

— У чым-жа? — пацікавіўся дзядзька Яхім.

— А вось у чым. Там, у Цельшыне, страшна гразі многа, ня вылезьці, праз вуліцу нельга перайсьці ў мокрае надвор'е. Двары-ж і вуліцы бярвеньнем завалены. І нікому ў галаву ня прыйдзе палажыць кладку каля хаты. Гаварыў я з імі аб гэтым ня раз, а яны хоць-бы што. "А, — кажуць, — мы ўжо да гэтага прывыклі, спрадвеку так у нас вядзецца". А вы-ж паглядзіце — бачыце? — Лабановіч паказаў на грэблю, — ці ня тое самае?

— Верна, брат, — чуюцца галасы.

— Дык яна, падла, вялікая! Гэта-ж ня тое, што бервяно выкаціць з двара на вуліцу, каб палажыць кладку, — апраўдваецца дзядзька Сымон, ня хочучы, відаць, у адзін рад з палешукамі стаць.

— Але праехаць з возам па грэблі гэта ня тое, што прайсьці пешкам па гразкай вуліцы.

— Што казаць! Вось дзе сядзіць яна, гэтая грэбля. — Дзядзька Базыль паказвае на горла.

— Вось я сумыслу і пачаў з палешукоў, каб пагаварыць аб грэблі. Па праўдзе, як гэта вы цярпіце да гэтага часу такое ліха, як наша грэбля? Такое вялікае сяло, столькі рук, столькі сілы! Кінуліся-б гуртам — хто пяску падвёз-бы, хто камянёў, — імі поле, дарогі завалены, — хто выйшаў-бы з рыдлёўкаю, хто з сякераю... Тыдзень часу, і грэбля была-б, як яечка.

— Каб-жа гэта дружна ўзяліся, — гудзе голас.

— Гэта, брат, ня так лёгка, — выступіў стары Сёмка, краснабай і заядлы курэц. Ён так прапах сосам, што яго можна было за паўвярсты носам зьнюхаць.

— Зрабі ты найлепшую грэблю, а выльецца вясною вада і сапрэ яе к чортавай матары.

Тут падняўся шум. Некаторыя стаялі за тое, што грэблю можна зрабіць вечную. Уся бяда ў тым, што народ на работу не падымеш, бо нядбайны. Другія даводзілі, што з гэтае грэблі толку ня будзе. Тут мост рабіць трэба, лес вазіць, майстроў ставіць. Часамі завязвалася паміж некаторымі сварка: вось, напрыклад, Сьцяцок — колькі працаваў на грэблі, а Гаронім туляўся, як сабака ад мух.

— Вы ніколі і не браліся дружна, грамадою, і ня ведаеце, якая вы сіла ў дружнай грамадзе. Хто-ж за вас рабіць будзе? І для каго вы будзеце рабіць?



© PDF: Kamunikat.org 2013

— Мы гэта, брат, ведаем, ды вось рады ня можам даць. Калі-б прыехаў прыстаў з бізуном ды даў перцу, то паставіў-бы ўсіх на работу, — кажа стары Гілёрык.

Мікуцічане гудуць. Выплываюць розныя крыўды, непаразуменьні, успамінаюцца старыя прарэхі сялянскага жыцьця, аб грэблі перастаюць зусім гаварыць.

Некаторы час Лабановіч і ў сяле не паказваўся, бо нейк прыкра было слухаць насьмешкі сяброў.

працяг будзе.

## ГУМАР

— Чаго ты крывішся і заплюшчваеш вочы калі п'еш гарэлку? спыталася жонка свайго мужа.

— А ты ўжо забылася як я кляўся, што і вокам на яе ня гляну.

— ● —

— Чаго гэта людзі родзяцца то чорныя, то белыя?

— Бо адны родзяцца ўдзень, а другія ўночы.

— Рудыя, калі родзяцца?

— Таксама ўдзень, толькі тады, як сонца моцна паліць.

— * —

— Колькі чалавек працуе ў вашым бюро?

— Пяць з кіраўніком.

— А без кіраўніка?

— Ніхто не працуе.

— ● —

— Я вас прасіў віна і вады. Віно ёсьць, а дзе вада?

— А вада ў віне.

— * —

— Коля, скажы, як ты падзяліў-бы адзін яблык, калі-б да цябе прыйшло 5 тваіх сяброў.

— Я пачакаў-бы аж яны пойдуць і тады сам зьеў-бы.

— ● —

— Але-ж вы маеце доўгія вушы... ну, ну!

— Праўда? Я заўсёды кажу, што мае вушы, а ваша галава, дык быў-бы добры асёл.

— * —

— Ці можна караць за тое, што ня было зроблена? — запытаў вучань настаўніка.

— Не, хлопча, у ніякім выпадку...

— Вось добра, спадар настаўнік, бо я не адрабіў лекцыяў.

— ● —

**— Ты, Янка, першы раз трапіў ў суд?**

**— Але.**

**— Ну, і як-жа на цябе там дзівіліся?**

**— Вельмі прыемна... Нават ня ведалі, дзе пасадзіць...**

— * —

**— Я адурэю, калі Ніна не захоча быць маёю жонкаю.**

**— А па-мойму, ты адурэеш, калі з ёю ажэнішся.**

# Г У М А Р





І калі кончыцца гэты плот...



*Пацалуй мяне.*
*Навошта, ніхто не глядзіць на нас.*



Па старой прывычцы.



"Вось гэтак, я не пакіну адціскаў маіх пальцаў."



*Музыкальнае трыо.*



НАВАГРУДСКАЕ ЗАМЧЫШЧА

EDITOR & PUBLISHER: NIKOLAS PRUSKY
1086 FOREST HILLS AVE., SE. GRAND RAPIDS, MICH. 49506